АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

TV плюс

14 – 20 красавіка 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
Цана ў розніцу 64 рублі

№ 15 (260)

Чытайце «РГ» у Internet: http://regionnews.promedia.minsk.by

НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ

| | Субота, 15 красавіка | | Нядзеля, 16 красавіка | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | +4 – +7°С | +6°С | +4 – +8°С | +3°С |
| Удзень | +12 – +14°С | +13°С | +12 – +17°С | +17°С |

У НУМАРЫ –

## КАЛЯРОВАЯ ЎКЛАДКА З ТЭЛЕПРАГРАМАЙ

## У сувязі з павелічэннем пасажырапатоку, назначаныя дадатковыя прыгарадныя цягнікі

**з 8 красавіка** па суботах
**прыг. цягнік Маладзечна–Багданаў**
адпраўленнем са ст. Маладзечна ў 7-32
прыбыццём на ст. Маладзечна ў 11-02

**з 15 красавіка** па суботах
**прыг. цягнік Маладзечна–Параф'янаў**
адпраўленнем са ст. Маладзечна ў 7-18
прыбыццём на ст. Маладзечна ў 11-38

**з 23 красавіка** па нядзелях
**прыг. цягнік Маладзечна–Юрацішкі**
адпраўленнем са ст. Маладзечна ў 14-29
прыбыццём на ст. Маладзечна ў 20-58

СМАРГОНЬ

## У Расіі зменшыўся попыт на бульбу

У сувязі са змяншэннем попыту на сухое бульбяное пюрэ, якое раней ахвотна купляла для сваіх паўночных рэгіёнаў Расія, на Сольскім заводзе для сушкі агародніны пераарыентаваліся на выпуск новых відаў прадукцыі. За мінулы год тут выпусцілі 2 мільёны 100 тысяч умоўных слоікаў разнастайных кансерваў.

Даспадобы прыйшліся жыхарам Смаргоншчыны і суседніх раёнаў таксама рыбныя кансервы, выраблена летась 36 тон кандытарскіх вырабаў і 845 тон сухога бульбянога пюрэ. Гэта дазволіла перавысіць прагнозныя пакзчыкі мінулага года на 224,7%.

*Павел МАКЛЮК.*

АСТРАВЕЦ

## Пасяўная набыла рулявога

Сёлетнюю пасяўную Астравеччына пачала без начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі. Толькі днямі на гэтую пасаду быў прызначаны **Валянцін Даўговіч**, які да таго працаваў старшынёй калгаса імя Калініна.

Ён з мясцовых, шмат год працаваў заатэхнікам упраўлення сельскай гаспадаркі. В. Даўговіча добра ведаюць, таму адаптацыя да новых абавязкаў шмат часу, напэўна, не зойме.

*Акцябрына ЗАВАДСКАЯ.*

ВАЛОЖЫН

## Улетку прыйдзе прыродны газ

Канцэрн "Мінскэнерга" выдзеліў каля 80 мільёнаў рублёў для правядзення прыроднага газу на базу Валожынскага раёна электрычных сетак.

Дзякуючы гэтаму, прыродны газ прыйдзе ў большую частку дамоў жыхароў вуліцы Кастрычніцкай, дзе знаходзіцца гэты РЭС. Будаўніцтва ўзгоднена з усімі інстанцыямі, скончыцца яно за 3 летнія месяцы.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

АСТРАВЕЦ

## Астравецкія грамадзяне патрабуюць

Па ініцыятыве мясцовай арганізацыі АГП адбылася сустрэча прадстаўнікоў гэтай арганізацыі з кіраўніком астравецкай вертыкалі **Адамам Кавальком**.

У ходзе гадзіннай размовы **Іван Крук і Мікалай Уласевіч**, якія прадстаўлялі мясцовую апазіцыю, гаварылі пра вострыя пытанні жыцця і сваё бачанне шляхоў іх вырашэння. У райвыканкам, у сувязі з гэтым, пададзена адпаведная афіцыйная заява, копію якой заяўшчыкі пераадрасавалі таксама і ў Гродзенскі аблвыканкам.

У прыватнасці, запатрабавана, каб раённыя ўлады неадкладна ліквідавалі запазычанасць па заработнай плаце настаўнікам, медработнікам і работнікам культуры, разгледзелі пытанне аб павышэнні яе ў рамках існуючай сістэмы даплат у памеры да 50%, а таксама неадкладна прыступілі да надзялення ўсіх жадаючых грамадзян раёна зямельнымі ўчасткамі для вядзення асабістай гаспадаркі.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Безабедныя рабочыя

Раённы Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі вынес пастанаўленне прыпыніць працу сталовай ААТ "Завод буддэталяў".

Прычына: аб'ём халадзільнага абсталявання і фактычная магутнасць вытворчых цэхаў не адпавядае асартыменту кулінарных вырабаў, якія там выпрацоўваюцца. Такім чынам, некалькі сотняў рабочых засталіся без гарачых абедаў.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ЧЫГУНКА

# Узялі ў студэнтаў, аддалі школьнікам

*МАЛАДЗЕЧНА. У пачатку красавіка з'явіўся указ "Аб ільготах для навучэнцкай моладзі на праезд чыгуначным транспартам агульнага карыстання". Для чытачоў "РГ" сітуацыю тлумачыць начальнік вакзала станцыі Маладзечна* **Надзея СТАЎПІНСКАЯ.**

– Ад гэтага часу студэнты стацыянараў абмежаваныя ў льготным праездзе па тэрыторыі краіны ў цягніках міжгарадняга фарміравання (напрыклад, Гродна–Унеча. Раней, каб даехаць да Маладзечна з Гродна, студэнты плацілі па льготным тарыфе, цяпер давядзецца аплачваць поўны кошт).

А школьнікі раней маглі карыстацца льготным тарыфам толькі на прыгарадных цягніках. Цяпер жа іх ураўнялі ў правах са студэнтамі.

Такім чынам, у студэнтаў адну льготу адабралі, а школьнікам дадалі. Зазначу, што льготы дзейнічаюць з 1 кастрычніка па 30 чэрвеня (па выхадных і нерабочых днях), а з 1 студзеня па апошняе число лютага – кожны дзень.

Што тычыцца прыгараднага транспарту, то льготным тарыфам гэтыя абедзве катэгорыі карыстаюцца круглы год.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

*Чаго б не радавацца? Школьнікі – амаль студэнты. Ва ўсялякім разе, у льготах на транспарце.*

*Фота «РГ».*

БЮДЖЭТ

## Вакол авансу

МАЛАДЗЕЧНА. Праблемы з напаўненнем гарадскога бюджэту нарадзілі запазычанасці па выплаце заработнай платы настаўнікам. У мінулым месяцы затрымка склала больш за 10 дзён (па плане зарплату павінны выплачваць з 4 па 8 чысло кожнага месяца).

Пасля слоў выконваючай абавязкі загадчыка фінансавага аддзела гарвыканкома Марыны Бубен пра тое, што аванс за сакавік, па дамоўленасці са школамі, не выплачваўся, у рэдакцыю тэлефанавалі настаўнікі. Маўляў, ніякіх дамоўленасцяў не было.

У гутарцы з карэспандэнтам "РГ" сітуацыю праясніў дырэктар гімназіі **Аляксандр Бурдыка**:

– У калектыўным дагаворы пазначана, што тэрміны выплаты заработнай платы павінны адпавядаць графіку, які складае гарадскі аддзел адукацыі. Напрыклад, нейкія санкцыі да адміністрацыі аддзела могуць прымяняцца тады, калі заработную плату не выплачваюць з затрымкай на месяц. Пра аванс гаворка не ідзе, бо гэта не заработная плата.

Але да мінулага месяца, заўважу, спраўна выплачвалі і тое, і тое. Мінуламесячны аванс не заплацілі таму, што не хапала грошай на ўсё: і без таго існавала запазычанасць па зарплаце, а прыходзіў ужо час новых выплат. Таму і было вырашана абмежавацца толькі выплатай заробку.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

## Статыстыка наведванняў старонкі «РГ» у Internet

З дня выхаду электроннай версіі «РГ» нашу старонку ў Internet наведвалі 147 разоў (79 у сакавіку і 68 у красавіку). Усяго ў нашым «спісе» 94 чалавекі з 15 краін свету. Цікава, што ў гэтым месяцы наведванняў з Беларусі і ЗША было амаль пароўну – 35 і 27 адпаведна.

**Заставайцеся з «РГ»!**

НАША АНКЕТА

## З вашай дапамогай мы зробім для вас газету лепей!

1. Якім газетам вы аддаяце перавагу? ..................
2. Якім газетам вы давяраеце найбольш? Чаму? ..................
3. Якая газета, на ваш погляд, найбольш прафесійная? Чаму? ..................
4. Матэрыялаў на якія тэмы вам не хапае ў цэнтральных газетах, таму вы звяртаецеся шукаць гэта ў мясцовых? ..................
15. Вы чытаеце сваю раённую газету, "Рэгіянальную газету", цэнтральныя выданні, іншую прэсу (патрэбнае падкрэсліце)? ..................

На астатнія пытанні адказваце па вашым жаданні:

Пол ........ Узрост ........ Адукацыя ........ *(пачатковая, сярэдняя, вышэйшая (ступень і спецыяльнасць))*

Прафесія ........ Работа ........ *(якая пасада, колькі чалавек у падпарадкаванні)*

Жывяце ў горадзе (вёсцы) ........

*Запоўненую анкету можна даслаць у рэдакцыю поштай, прынесці асабіста, перадаць праз нашы пункты прыёму аб'яў.*

ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

## 14–20 красавіка, Маладзечна

*Цэнтральная гарадская бібліятэка*

14–20 – выстаўка мастака Андрэя Самуся (Астравец)

20 – вечарына памяці "Лесі Беларускі" (Ларысы Марозавай) пачатак а 17–й гадзіне

*Лялечны тэатр "Батлейка"*

16 – спектакль "Незвычайныя спаборніцтвы" пачатак а 12–й гадзіне

РЭФДЭПО

# Рэфдэпо перажывае не лепшыя часы

Заканчэнне. Пачатак №14.

## Асаблівасці прафесіі механіка рэфрыжэратарнага дэпо

**Георгій Тулейка і Вячаслаў Вярбіцкі** працуюць у дэпо яшчэ з сярэдзіны 80–х і, натуральна, бачылі лепшыя часы.

– З геаграфіяй усё добра, – усміхаюцца яны. – Ад'ездзілі ад Уладзівастока да Калінінграда і ад Сярэдняй Азіі да Варкуты. Былі ў Прыбалтыцы, Польшчы. Па 300 рублёў атрымлівалі. Практычна не было прастояў, нават пыталіся ў нас: можа, загрузіцеся? Цяпер завязем калі–нікалі груз у Расію, назад ідзем паражняком – кожная краіна стараецца забяспечыць работай "сваё" дэпо.

**– Раскажыце падрабязней пра вашу работу.**

– У брыгадзе 2 чалавекі: старшы механік і механік. У паездках працуем па 12 гадзін у суткі. Наша задача – якасна даставіць прадукцыю ў патрэбнае месца. Возім, у асноўным, прадукты, а з імі шмат клопату. Праблем дадала "медная ліхарадка": былі спробы зрэзаць сілавы кабель паміж вагонамі.

Многія не вытрымліваюць: месяц, а калі і два жывем у вагоне, у многіх няма ні тэлевізара, ні халадзільніка, затое пастаяна ёсць вібрацыя, качка, штуршкі. Ды і трэба валодаць прафесіямі халадзільшчыка, электрыка, повара, таваразнаўцы, шмат чаго ведаць.

Яшчэ адна цяжкасць – псіхалагічная сумяшчальнасць. Гэта, можа, і самае галоўнае.

**– Як вы лічыце, чаму рэзка знізіліся аб'ёмы перавозак год таму?**

– Шмат баз перайшло ў прыватную ўласнасць. Гаспадары выращылі дастаўляць свае тавары ў Еўропу малымі партыямі аўтатранспартам. Хацелася б больш гнуткай "палітыкі" ад кіраўніцтва дэпо, а то апошні месяц займаемся рамонтам.

**– Які цяпер у вас заробак?**

– Атрымліваем, як вартаўнікі – 26 тысяч. Калі ёсць работа, то крыху больш. Не тое, што раней, калі механік атрымліваў аклад 150 рублёў. У дэпо пераходзілі інжынеры, майстры, таму што тут больш плацілі.

**– Як справы ў вашых расійскіх калег?**

– Адныя камандзіровачныя там складаюць 15 долараў у суткі па рэальным курсе замест нашых пяці (ды і тое ў "зайцах" па курсе Нацбанка; і выдаюць іх пасля паездкі). А так давалі аванс 10 тысяч (з 1 лютага – 20 тысяч). Палічыце: 10 тысяч на месяц–два. Іх тым, хто курыць, хапае толькі на цыгарэты. Прадуктамі запасаемся тут, на рынку, ці абыходзімся "дарамі агарода". Выратоўваюць паездкі ў Польшчу – за суткі камандзіровачныя складаюць 15 долараў (рэальна атрымліваецца 9–10).



*Адказны механік Алег Рынкевіч у адсеку кіравання рэфсекцыі.*

ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

Якраз падчас размовы "рэфам" перадалі, што трэба рыхтавацца да чарговай паездкі. Настрой гэта ўзняло ім значна – адзін тэрмінова рушыў на рынак, другі пачаў рыхтаваць тэхніку. Калі сашчэплівалі вагоны, ад штуршка рэзка зазвінеў увесь посуд, непапярэджаны чалавек, накшталт мяне, мог, напэўна, атрымаць пашкоджанні. Мае героі нават вокам не міргнулі, маўляў, бывала і не такое ў паездках.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

РЫНАК

# Вырас кошт бакалейных тавараў

МІНСК. Пасля забароны гандлю з машын на Камароўскім рынку зафіксаваны, як і прагназавала "РГ", прыкметны рост цэн на бакалейныя тавары.

Па звестках БелаПАН, за апошнія 10 дзён кошт макаронных вырабаў павялічыўся на 19,8% (з 250-330 да 335-360 рублёў за кілаграм), манных круп – на 11,7% (з 300 да 330-340 рублёў), грэцкіх круп – на 7,4% (з 530-550 да 560-600 рублёў), рысу – на 5,6% (з 340-370 да 360-390 рублёў) і г. д. Пры гэтым рыначны курс долара, на які арыентуюцца прадаўцы, застаўся на ранейшым узроўні.

Нагадаем, што па рашэнні адміністрацыі Савецкага раёна сталіцы, гандаль адносна таннай бакалеяй з машын на Камароўскім рынку быў спынены з 3 красавіка. На пляцоўцы, дзе яны размяшчаліся, плануецца абсталяваць аўтастаянку. Намаганні прафсаюза прадпрымальнікаў «Садружнасць», забастоўкі і лісты пратэсту ў розныя інстанцыі не прывялі да змянення пазіцыі мясцовых уладаў.

На гандлёвай пляцоўцы засталіся толькі нешматлікія прычэпы «Купава», каля якіх утвараюцца вялікія чэргі. Скарачэнне прапановы пры высокім попыце на бакалейныя тавары і прывяло да росту цэн.

*Дзмітрый УЛАСАЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 6 красавіка | 13 красавіка |
|---|---|---|
| Долар | 443,00 руб. | 455,00 руб. |
| Марка Герм. | 217,93 руб. | 223,22 руб. |
| Літ | 110,73 руб. | 113,72 руб. |
| Рас. руб. | 15,43 руб. | 15,93 руб. |
| Злоты | 105,77 руб. | 110,77 руб. |
| ЕЎРА | 426,23 руб. | 436,57 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

Долар ... 920 – 950 руб. ... 930 – 950 руб.

МАЛАДЗЕЧНА. **Цэны ў сераду на рынку**

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 05.04 | 12.04 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 1050 | 1050 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 4490 | 4490 |
| Сасіскі | 1 кг | 939 | 1180 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 700 | 700 |
| Рыс | 1 кг | 380 | 380 |
| Грэчка | 1 кг | 580 | 580 |
| Цукар | 1 кг | 265 | 265 |
| Алей | 1 л | 650 | 650 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 380 | 370 |
| Маянэз | 250 г | 150 | 140 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 300 | 290 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 230 | 210 |
| Лімоны | 1 кг | 880 | 950 |
| Апельсіны | 1 кг | 630 | 650 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 160 | 150 |
| Яблыкі | 1 кг | 350 | 370 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 500 | 600 |
| Масла | 1 кг | 1000 | 1300 |
| Тварог | 1 кг | 400 | 500 |
| Малако | 1,5 л | 180 | 200 |
| Бульба | вядро | 700 | 700 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 430 | 500 |
| Морква | 1 кг | 250 | 280 |
| Капуста | 1 кг | 130 | 150 |

## Вяскоўцы не хочуць прадаваць малако за капейкі

СМАРГОНЬ. Гандлёвыя рады паўсядзённага рынку ў Смаргоні запоўненыя малаком і малакапрадуктамі. Гандлююць імі, часам, нават на вуліцах, а то і ў дварах шматпавярховак.

Справа ў тым, што вяскоўцам нявыгадна здаваць сваё тлустае, у адрозненне ад 1,5%–га ў дзяржаўных крамах, малако дзяржаве за капейкі. Цяпер за літр мясцовы малаказавод плаціць усяго 55 рублёў. Падняць цану хаця б да 65–70 рублёў ён не ў стане: няма чым плаціць.

*Павел МАКЛЮК.*

ЗАРПЛАТА

## Шклапосуд як сродак заработку

СМАРГОНЬ. Райспажыўтаварыства ў дастатку запоўніла паліцы вясковых магазінаў, для чаго ў свой час брала вялікія крэдыты. У выніку набралася тавараў на суму 160 мільярдаў рублёў. І вось цяпер паўстала праблема з іх вяртаннем.

Пакупніцкая здольнасць насельніцтва ўпала, як кажуць, ніжэй калена. Свае заработкі вяскоўцы Смаргоншчыны не атрымалі яшчэ і за студзень. Таму невыпадкова можна бачыць, як у магазінах за здадзены шклапосуд людзі купляюць тавары першай неабходнасці.

*Павел МАКЛЮК.*

ПРАФЕСІЯ

# Пра «хуткую дапамогу» рэгулярна згадвае кожны другі

*МАЛАДЗЕЧНА. Работа ў "хуткай" цяжкая фізічна. Змена доўжыцца дванаццаць гадзін — з 8 да 20 і, адпаведна, з 20 да 8. Дзве брыгады (у кожнай урач і фельчар) працуюць ад дзевяці да дзевяці, каб у час перазменкі быць "на падхопе". Усяго ў штаце маладзечанскай службы 150 чалавек. 11 брыгад (з іх 2 — інтэнсіўнай тэрапіі, яны накіроўваюцца на самыя складаныя выклікі), 1 педыятрычная, 2 лінейныя, астатнія — фельчарскія. 20 машын хуткай дапамогі (большасць з іх старыя, тэрмін выкарыстання да спісання — 10-11 год, зношваюцца ж яны значна хутчэй, таму што дзень і ноч у рабоце; але зусім нядаўна атрымалі ў эксплуатацыю 2 новыя "ГАЗелі").*

Наогул, пры абнаўленні парка беларускіх "хуткіх" перавага аддаецца расійскім «ГАЗелям», паколькі яны ў чатыры разы таннейшыя за «беларускія» «форды». У Мінску, прыкладам, працуюць 43 аўтамабілі хуткай дапамогі маркі «ГАЗель», і іх закупку сёлета плануецца прадоўжыць. Аднак, як зазначае галоўны спецыяліст па хуткай медыцынскай дапамозе Міністэрства аховы здароўя Беларусі **Віталь Ціцішын**, для адпаведнасці аўтамабільнага парка ўстаноўленым тэрмінам эксплуатацыі Беларусі неабходна закупіць каля 350 машын.

Машына "хуткай дапамогі" ўяўляе сабой міні–склад. Для медыкаў і хворых тут ёсць сумка з аднаразовымі шпрыцамі, сардэчныя прэпараты, сродкі, якія здымаюць пячочныя і ныркавыя колікі, зніжаюць ціск; абавязковы кардыёграф для зняцця кардыяграмы на даму; акушэрская сумка (стэрыльны бінт, пальчаткі, стэтаскоп, дзіцячая коўдра...); сістэма для пералівання раствору, трахеатамічны набор, дыхальны апарат; мыліцы, насілкі...



Новая «ГАЗель».



Фельчар па прыёме выклікаў Галіна Чаеўская.

Як асноўныя асаблівасці службы, галоўны ўрач станцыі хуткай дапамогі **Багдан Лянцэвіч** адзначае даступнасць, тэрміновасць (медыкі павінны "ўкласціся" на тэрміновыя выклікі ў 4 хвіліны; 85% выклікаў па тэрміновасці выконваюцца), атрыманне людзьмі першай ўрачэбнай дапамогі.



Галоўны ўрач станцыі хуткай дапамогі Багдан Лянцэвіч.

ФОТА НАТАЛЛІ ШУМСКАЙ.

**Дарэчы.** Загадам Мінаховы здароўя ўстаноўленыя нормы часу прыезду брыгады хуткай дапамогі па выкліку насельніцтва – да 15 хвілін у горадзе і да 30 хвілін у сельскай мясцовасці. У залежнасці ад падставы выкліку магчымы прыезд брыгады неадкладнай медыцынскай дапамогі. Час прыбыцця такой брыгады можа дасягаць адной гадзіны.

## Работа дыспетчара – не толькі выклік зафіксаваць

Амаль год, як дыспетчарская мае два камп'ютэры. Выклік уводзіцца ў камп'ютэр, сувязь з брыгадай – па радыёстанцыі.

Кожную змену на работу заступаюць 2 дыспетчары і старшы ўрач змены. Пасля вяртання з выезду кожны ўрач прыносіць карту выкліку з гісторыяй хваробы, усе звесткі апрацоўваюцца на камп'ютэры (якая аказана дапамога, хворы дастаўлены ў бальніцу ці абслужаны на месцы). Раніцой звесткі пра хворых за суткі перадаюцца ў паліклініку, і ўчастковыя ўрачы бачаць, каго наведаць.

Тэлефонны званок. Дзіця сямі год, рвота, маці просіць парадзіць, што ёй рабіць. Фельчар па прыёме выклікаў Галіна Чаеўская дае кароткую, але дакладную кансультацыю, бачыць маё здзіўленне (гэта ж хуткая дапамога, а не амбулаторыя) і тлумачыць, што такіх тэлефанаванняў бывае вельмі шмат за дзень. Даваць кансультацыі па тэлефоне ў абавязкі дыпетчараў станцыі хуткай дапамогі не ўваходзіць, але ж як адмовіць людзям, якія просяць дапамогі?

**Працяг будзе.**

*Наталля ШУМСКАЯ.*

СЛУЖБА «01»

## Адзін аднаго не падпальваюць

МАЛАДЗЕЧНА. У сакавіку на Маладзечаншчыне было 17 пажараў. Матэрыяльны ўрон склаў 2121 тысяч рублёў (у Маладзечне – 6 пажараў "на 529 тысяч рублёў", у раёне – 11 "на 1593 тысяч рублёў"). Гібелі людзей на пажарах не было.

Найбольшая колькасць пажараў адбылася па прычыне неасцярожнага абыходжання з агнём – 9 пажараў, ад парушэнняў правілаў устройства і эксплуатацыі печаў – 2, ад дзіцячага свавольства з агнём – 2, ад парушэнняў правілаў устройства і эксплуатацыі электраабсталявання – 4, падпалы – 0.

*Андрэй РАБЕЦ, інспектар Дзяржпажнагляду.*

# Некаторыя тарфянікі дымяцца з мінулага года

З 1 красавіка ў рэгіёне праводзіцца месячнік пажарнай бяспекі.

Праводзяцца агляды і бяруцца на ўлік дамы і кватэры, дзе жывуць пенсіянеры, інваліды вайны і працы, а таксама мнагадзетныя сем'і і асобы, якія злоўжываюць алкаголем. Калі выявяцца няспраўнасці пячнога ацяплення, электраправодкі, людзям акажуць дапамогу ва ўхіленні.

Інспектар па пажарным наглядзе **Андрэй Барадака** нагадаў, што ад 24 лютага (з моманту сходу снежнага покрыва) Маладзечанскі райвыканкам прыняў рашэнне аб ахове лясоў і тарфяных масіваў. Забаронена спальванне сухой травы і ржышча, разводзенне вогнішчаў у месцах, якія маюць рызыку ўзгарання (прадугледжаныя штрафы: з прыватных асоб – да 1, з кіруючых асоб – да 30 МЗП).

А. Барадака лічыць, што трэба сур'ёзна ставіцца да гэтых мерапрыемстваў, таму што ёсць звесткі, што ў рэгіёне некаторыя тарфянікі дымяцца яшчэ з мінулага года.

Кіраўнік лясгаса **А. Ермаловіч** і кіраўнік групы дзяржаўнага пажарнага нагляду **Эдуард Бабкоў** распрацавалі план прыцягнення сіл і сродкаў для тушэння пажараў, згодна з якім, гаспадаркі, прадпрыемствы, сельсаветы і іншыя арганізацыі абавязаныя выдзяляць людзей і тэхніку для аказання дапамогі пры тушэнні агню.

*Іван ШПАЛАЎ.*

*Міні-футбол*

# Чаму «праваліўся» Праваліснскі

**Энергетык (Орша) – Металург 5:9 (1:7)**

**Суддзі:** В. Сяргееў, А. Краўцоў (абодва – Мінск).

**Галы**: Малафееў (19), А. Кальм (21), Паповіч (23), Дзмітрыевіч (31), Новік (40); Мацюк (2, 8), Сіткевіч (6), Янель (7, 14, 20), Шаўчэнка (9), Макей (28), Казяк (30).

**Склад:** Кіркіж; Максімаў, Мацюк, Сіткевіч, Янель (кап.); Казяк, Макей, Раманаў, Шаўчэнка; Лявончык, Бахур.

Маладзечанцы змянілі тактыку абароны. Звычайна трое актыўна супрацьстаяць сапернікам, а адзін размяшчаецца крыху адзаду. У Оршы ж была ўжытая сістэма 1-1-2: пляцоўка там маленькая, таму тактыка гаспадароў найчасцей зводзіцца да таго, што яны лёгка адрасуюць мяч габарытнаму **Уладзіміру Праваліснскаму**, які ўвесь час дзяжурыць ля варот сапернікаў. **Сяргей Сафонаў** вырашыў адцягнуць крыху назад **Аляксандра Сіткевіча**, а апошнім абаронцам, як заўсёды ўчэпіста, адгуляў **Дзмітрый Мацюк**.

Дапамагло "Металургу", што ў гаспадароў выйшаў запасны галкіпер, таму яшчэ на перадматчавай устаноўцы была пастаўленая задача часцей біць па варотах.

На 9 хвіліне сустрэчы было ўжо 5:0 на карысць маладзечанцаў, і толькі ў другой палове матча лік стаў больш прыстойным для "Энергетыка" (маладзечанцы самі сабе "прывезлі" некалькі галоў, сапернікі пэўным чынам актывізаваліся, а суддзі слабым вырашылі дапамагчы).

Канкурэнтам-бамбардзірам **Дзмітрыю Янелю** і фаніпальцу **Сяргею Лагутку** засталося правесці па тры матчы, упершыню маладзечанец вырваўся наперад. Трэнеры і каманда дапамагаюць: калі ў Оршы другая "чацвёрка" зарабіла права на дзесяціметровы ўдар, прабіваць яго даверылі Янелю – гол.

Сімург – Беліндзяржстрах-БДПА 6:5, Белаўтасервіс – ЦКК 5:1, Педуніверсітэт – МЭСР 5:4, МАПІД – РТІ-Заслаўе 3:2, Дарожнік – Эканаміст 12:1.

| | |
|---|---|
| 1. Сімург | 61 |
| 2. Дарожнік (+1) | 59 |
| 3. Металург (+1) | 54 |
| 4. МАПІД | 44 |
| 5. Энергетык (+1) | 40 |
| 6. ЦКК | 35 |
| 7. Верас | 33 |
| 8. Белаўтасервіс | 31 |
| 9. Педуніверсітэт | 29 |
| 10. МЭСР | 26 |
| 11. БІДС-БДПА | 19 |
| 12. РТІ-Заслаўе (+1) | 15 |
| 13. Эканаміст | 10 |
| 14. БАТУ (+4) | 3 |

**Бамбардзіры:** Янель – 39, Лагутка (Дарожнік) – 38, А. Кальм (Энергетык) – 37.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Візітная картка*

# Дзмітрый Янель: «Галоўнае – каманда»

***У апошні час Дзмітрый Янель стаў сапраўдным лідэрам маладзечанскага "Металурга". З чым гэта звязана?***



*Дзмітрый Янель размінаецца – чакайце, сапернікі, новыя галы.*
ФОТА ЮЛІІ ВАНСЛАЎ.

– У мінулым годзе я быў траўміраваны і таму гуляў не лепшым чынам. Цяпер са здароўем асблівых праблем няма, і я адчуваю сябе больш упэўнена.

**– Ці хваліць цябе Сяргей Сафонаў?**

– Калі пахваліць, а калі і пакрычыць.

**– Ты па–ранейшым жадаеш гуляць толькі ў міні-футбол?**

– Не. Пасля заканчэння сезона ў маленькім футболе планую гуляць у вялікі.

**– За "Маладзечна"?**

– Усё магчыма. Але пакуль ніякіх размоў з кіраўніцтвам гэтага клуба не было.

**– Чаму табе раптам захацелася гуляць у вялікі футбол?**

– Калі б чэмпіянат па міні–футболе праходзіў цэлы год, я нікуды не ішоў бы. Хутка маленькі футбол скончыцца, а гуляць хочацца. Таму і буду выступаць за каманду вялікага футбола.

**– Вернемся да "Металурга". Якія свае галы ты памятаеш?**

– Я забіваю амаль у кожным матчы, таму галы надоўга не запамінаю.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

**P. S.** Пасля аднаго з матчаў у нас была такая гутарка:

**– Цікава, хто колькі забіў у гэтым туры?**

– Жадаеш быць лепшым бамбардзірам чэмпіянату?

**– Не адмовіўся б. Але галоўнае, каб каманда выйгравала.**

– Значыць, камандныя інтарэсы для цябе важнейшыя за асабістыя?

**– Так. Галоўнае – каманда.**

*Міжсезонне*

# Людас Румбуціс: в. а. галоўнага трэнера і... прэзідэнта ФК "Маладзечна"

МАЛАДЗЕЧНА. За два тыдні да старту чэмпіянату I лігі праяснілася сітуацыя з кіраўніцтвам маладзечанскай каманды. У нагрузку да трэнерскіх абавязкаў **Людас Румбуціс** атрымаў яшчэ і прэзідэнцкія клопаты. Гаспадары клуба з аднайменнага грамадскага аб'яднання вырашылі, што **Леанід Стагановіч** не здолеў "пацягнуць" шматлікія вазы і цялежкі праблемаў.

Канчатковае рашэнне па кадравых пытаннях будзе прынята, відаць, у маі, калі збярэцца канферэнцыя ГА. Цяпер жа няма асаблівай спешкі. Галоўнае – як след падрыхтавацца да чэмпіянату. Што тычыцца фінансавага забеспячэння, сітуацыя даволі ўстойлівая, у нечым лепшая, чым летась. Гарадскія структуры пакуль выконваюць узятыя на сябе абавязкі.

У камандзе па-ранейшым шмат футбалістаў на праглядзе. Так, у двухбаковай гульні 8 красавіка ўдзел бралі 27 чалавек. 11-га "Маладзечна" сустракалася ў Стайках з "Тарпеда-МАЗам". Сапернікі ў першай палове матча выставілі асноўныя склады, лік быў 0:0. У перапынку трэнеры правялі масавыя замены, і рэзервісты мінчан забілі тры галы.

Загадчык аддзела па ФКСіТ Маладзечанскага гарвыканкома **Мікалай Шрымф** гаворыць, што перад камандай будзе ставіцца задача выступіць паспяхова, змагацца за высокія месцы. Як максімум – вяртанне ў вышэйшую лігу. Ёсць аб'ектыўныя прычыны, якія могуць зашкодзіць максімальным планам: кароткая перадсезонка, неўладкаванасць са складам, незгуляннасць футбалістаў.

Прымаць сапернікаў "Маладзечна" будзе ў Чысці. Нагадаем, стартавая сустрэча 23 красавіка дома супраць "Лунінца".

На гарадскім стадыёне поле пашырылі ўжо – за кошт бегавой дарожкі. Цяпер яго трэба засеяць, абгарадзіць і... нікога ў сярэдзіну не пускаць. Гуляць тут сёлета, зразумела, не давядзецца.

Магчыма, трыбуны будуць абсталяваныя індывідуальнымі сядзеннямі. Для гэтага трэба, каб рэспубліканская федэрацыя дабілася дапамогі ад ФІФА. А рамонт раздзявальняў можна будзе зрабіць і сваімі сіламі.

ЧЫСЦЬ. У сераду на сустрэчы кіраўніцтва раёна і прадпрыемства афармлена пагадненне аб фінансаванні каманды, і яе начальнік **Мікалай Мятліцкі**, нарэшце, змог адправіць у БФФ пацвярджэнне аб удзеле ў чэмпіянаце другой лігі.

Лідэры "Забудовы", якія збіраліся пераходзіць у "Азерцы", у сераду яшчэ былі разам са сваёй камандай. Праўда, невядома, наколькі задаволяць іх прапанаваныя дома ўмовы.

Наўрад ці ў Глыбокім хлопцам будзе гарантаванае месца ў аснове (хаця б таму, што склад там ужо нагуляны). Лічу, памылкай было, што **Сяргей Дараховіч** і **Віталь Макрыцкі** не засталіся сёлета ў складзе "Маладзечна". У першую чаргу, гэта, напэўна, памылка кіраўнікоў маладзечанскага клуба. Ва ўсялякім выпадку, будзе вельмі дрэнна, калі сітуацыя ў нашых камандах нармалізуецца, а самыя перспектыўныя мясцовыя хлопцы апынуцца зусім у іншым месцы.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Лёгкая атлетыка*

# Клуб «Рэгіён» бярэ прыклад з «РГ»

МАЛАДЗЕЧНА. Два клубы аматараў бегу – гарадскі ("Маладосць") і раённы ("Колас") – аб'ядналіся. Практычна кіраваў і там, і там **Аляксандр Кавалёў**, а ў спартыўным плане цяпер можна будзе пазмагацца за высокія месцы ў рэспубліканскім заліку, дзе вядуць барацьбу 24 клубы. Назвалі наватвор "Рэгіёнам". Леташні выніковы рэйтынг яшчэ не падведзены, але, хутчэй за ўсё, маладзечанцы будуць другія альбо трэція, тады як у 1998 годзе мелі чацвертае месца.

Сёлета ў склад "Рэгіёна" увайшлі смаргонцы **Уладзімір Чырыца** і **Уладзімір Чабанаў**, мядзельцы **Алег Быкаў** і **Андрэй Паспелаў**.

Хрышчэнне абноўленага клуба адбылося ў мінулым месяцы на трасах Брэста і Жодзіна, а ў выхадныя праходзіў Асіповіцкі марафон.

Як заўсёды паспяхова ў сваіх узроставых катэгорыях выступілі **Ларыса Пятрэнка** (60-64 гады), Уладзімір Чырыца (30-39), Уладзімір Чабанаў (60-64).

У Асіповічах першы раз у сезоне выйшла на трасу **Галіна Кавалёва**. Адразу ж была лепшая з часам 3:23. Мацнейшы з мужчын "Рэгіёна" і шосты ў абсалютным заліку Чырыца меў 2:36.

Традыцыйны Маладзечанскі марафон рыхтуюць мясцовыя раённы і гарадскі аддзелы па ФКСіТ ды Мінскае абласное ўпраўленне. 1 мая аб 11–й гадзіне ўдзельнікі стартуюць ля станцыі Крыніца, пабягуць да помніка экіпажу **Мікалая Гастэлы** ў Радашковічах, павернуць назад і фінішуюць у Чысці.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Былы ФК «Маладзечна»*

# Уладзімір Галубко: «У «Азерцах» ёсць над чым працаваць»

***Былы галоўны трэнер ФК "Маладзечна" Уладзімір Галубко цяпер займае такую ж пасаду ў камандзе другой лігі "Азерцы" (Глыбокае).***

– Мне падабаецца тое, што мая новая каманда існуе толькі два гады, – упэўнены **У. Галубко**. – Значыць, ёсць над чым працаваць. Для гэтага створаныя належныя ўмовы. Зарабляю я ў Глыбокім разоў у дзесяць больш, чым у мінулым сезоне ў ФК "Маладзечна". Кіраўнік мясцовй вертыкалі **Міхаіл Кандэрскі** з'яўляецца прэзідэнтам "Азерцаў" і на самой справе зацікаўлены ў камандзе. Дарэчы, у яе складзе гуляе шэраг вядомых маладзечанцам футбалістаў: **Вячаслаў Дзербан, Дзмітрый Сарокін, Андрэй Цыбулька, Валерый Жукоўскі, Павел Лутовіч**.

Дамашнія сустрэчы мы, хутчэй за ўсё, будзем праводзіць у гарадскім пасёлку Мёры, што непадалёку ад Глыбокага. У самім райцэнтры ўжо пачаліся работы па будаўніцтве стадыёна. Калі ўсё будзе ісці па плане, то ён стане адным з лепшых у краіне.

Асноўнымі сапернікамі "Азерцаў" бачу "Дынама–2", "Забудову", "Смаргонь", каманду АФВіС.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*



*Уладзімір Галубко з Кубкам СССР.*
ФОТА З АРХІВА «РГ».

**Анонс**

**16.04 Металург – ЦКК (Светлагорск)**

Маладзечна, зала ЗМК, 14.00

У першым крузе 3:3 (Сіткевіч – 2, Янель) у Светлагорску.

*Футбол*

# Што такое беларуская першая ліга

***У апошнія два з паловай гады чытачы "РГ" мелі добрую магчымасць пільна сачыць за перыпетыямі барацьбы ў вышэйшай і другой (падгрупа "А") лігах беларускага футбола. А вось у першай лізе каманды рэгіёна не выступалі. Сёлета тут давядзецца стартаваць маладзечанцам. Паспрабуем прааналізаваць, з чым ім давядзецца сутыкнуцца.***

У дзевяці папярэдніх чэмпіянатах бралі ўдзел 43 каманды. З 16 стартаваўшых па вясне-1992 ва ўсіх сезонах тут гулялі толькі пінчане і светлагорцы, але першыя дрэнна выступілі летась, таму светлагорскі "Хімік" (каманда ў гэтым міжсезонні вярнулася да ранейшай назвы) можам па справядлівасці назваць "апошнім з магіканаў". Што тычыцца сёлетняга складу лігі, то жодзінцы і маладзечанцы апусціліся сюды зверху, а ўсе астатнія прыйшлі знізу, хаця "Свіслач-Дах" паспеў пагуляць і сярод мацнейшых.

Ёсць ажно сем прыкладаў таго, як каманды здымаліся з розыгрышу па фінансавых прычынах. А для заможных выхадцаў з другой лігі ніколі не было праблемай хутка пераадолець тутэйшую інертную масу сапернікаў. Усяго за адзін сезон гэта рабілі "Атака-Аўра", "Нафтан-Дэвон", БАТЭ і "Свіслач-Дах". Нарадзіліся ў недрах першай лігі такія монстры, як "Славія", "Белшына" і "Дынама-93", якасна паправіў сваё здароўе "Гомель". Сярод асобных гульцоў выдзяляецца светлагорац **Уладзімір Краўчук**, які забіў 86 галоў (бліжэйшы праследавальнік **Віктар Пакаташкін** са ЗЛіНа мае 56) і правёў 217 матчаў (больш – 225 – згуляў толькі пінчанін **Валянцін Дамашчук**).

Мінулы чэмпіянат, табліцу якога мы прапануем разам з дадатковай інфармацыяй, парадаваў шчыльнасцю барацьбы ў верхніх эшалонах. У адрозненне ад некаторых ранейшых сезонаў, летась не было відавочных лідэраў. Сёлета на гэтую ролю, асабліва з улікам мінулых поспехаў БАТЭ і кампаніі, збіраецца прэтэндаваць "Лунінец", дзе не можа не адбіцца трэнерскі досвед **Якава Шапіры**, падтрымка "бацькоў горада" і былыя маладзечанскія кадры (начальнік каманды **Віктар Віскушэнка**, урач **Юрый Свідрыцкі**, гульцы **Сяргей Шалай, Аляксандр Клімовіч, Аляксандр Сінкавец, Дзмітрый Дрожа**). Могуцьператварыць колькасць сваіх удзелаў у якасць запаветнага месца светлагорцы. Наўрад ці задаволіцца роляй серадняка "Свіслач-Дах".

Напэўна, гэтыя тры каманды стануць асноўнымі сапернікамі "Маладзечна" у барацьбе за адзіную (з наступнага сезона вышэйшая ліга, нагадаю, скарачаецца) пуцёўку наверх. Сталічнае "Дынама-Юні" не мае права прэтэндаваць на яе, бо знаходзіцца ў структуры землякоў-цёзак. Здольныя на сюрпрыз "Граніт" і "Тарпеда". Каманды з райцэнтраў (Масты, Бяроза, Орша, Рагачоў), а таксама гамяльчане па сваім патэнцыяле могуць змагацца толькі ў сярэдзіне табліцы.

Цяжка сказаць, чаго чакаць ад яшчэ двух мінскіх калектываў. Яны пайшлі па шляху "Маладзечна" і "Лунінца", узмацняюцца дасведчанымі футбалістамі, карыстаючыся магчымасцю заяўляць іх як аматараў. Відаць, аўтсайдэрская доля чакае прадстаўнікоў Мазырскага (мястэчка Казенкі) і Магілёўскага (мястэчка Вейна) раёнаў.

Табліца складзеная па схеме: становішча каманд па выніках чэмпіянату-1999 + новыя каманды (шрыфтам выдзеленыя сёлетнія ўдзельнікі), ачкі ў чэмпіянаце-1999, колькасць удзелаў у чэмпіянатах першай лігі, гады найбольш удалых выступленняў (у дужках – занятае месца).

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Камунальнік (Слонім) | 59 | | |
| 2. | Ведрыч-97 (Рэчыца) | 58 | | |
| **3.** | **Дынама-Юні (Мінск)** | 56 | 5 | 99 (3) |
| **4.** | **Камунальнік (Светлагорск)** | 56 | 9 | 96 (3) |
| **5.** | **Граніт (Мікашэвічы)** | 54 | 1 | |
| **6.** | **Нёман (Масты)** | 52 | 1 | |
| **7.** | **Тарпеда (Жодзіна)** | 44 | 7 | 97, 98 (5) |
| **8.** | **Керамік (Бяроза)** | 43 | 4 | 97 (4) |
| **9.** | **Ворша** | 39 | 4 | 96 (8) |
| **10.** | **Рагачоў** | 38 | 3 | 98, 99 (10) |
| **11.** | **ЗЛіН (Гомель)** | 36 | 5 | 92-93 (6) |
| **12.** | **Зорка-ВА-БДУ (Мінск)** | 33 | 1 | |
| **13.** | **Палессе (Мазырскі раён)** | 27 | 2 | 98 (11) |
| **14.** | **Вейна-Днепр (Магіл. раён)** | 26 | 3 | 97 (11) |
| 15. | Пінск-900 | 26 | | |
| 16. | Віцьбіч-Дынама (Віцебск) | 5 | | |
| + | **Свіслач-Дах (Асіповічы)** | 1 | 98 (2) | |
| | **Маладзечна** | навічок | | |
| | **Лунінец** | навічок | | |
| | **Трактар (Мінск)** | навічок | | |

Раней "Маладзечна" сустракалася ў вышэйшай лізе з жодзінцамі (+3=0-0 6-1; 92, 1992-93) і асіпаўчанамі (+0=0-2 1-5; 1999), а ў 1/8 фінала Кубка-1992 перамагло каманду Рагачова 2:1.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

